Цана асобнага нумару: 10.000 м. п.

# ВОЛЯ НАРОДУ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 100.000 м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. Цана абвестак: перад тэкстам 15.000 мк., сярод тэксту 13.000 м. і на 4 стр. 12.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 2. Вільня, Чацьвер, 25-га кастрычніка 1923 г. Год I.

## Сваімі сіламі!

Фінансавы крызіс, які перажывае Польскае гаспадарства, нязвычайна цяжка адбіваецца на жыцьці працоўнага народу. Усім вядома, што *рост заработкаў* заўсёды значна *адстае ад росту дарагоўлі*, ня гледзячы на ўсю афіцыяльную статыстыку: тое, што мо' і правільна аблічае ўрад для Варшавы, зусім не адпавядае цэнам усіх прадуктаў на правінцыі,—у паветах і малых мястэчках, якія дастаўляюць тавары нашай вёсцы. Дый паводле ўрадовых аблічэньняў даюцца прыбаўкі працаўнікам, якія служаць у ўрадовых установах,—*работнікі-ж прымушаны браць кожную прыбаўку з бою*, і затым цяпер гэтак шырака разьліўся па ўсей Польскай дзяржаве забастовачны рух.

Ад фінансавага крызісу ня менш за работнікаў церпіць *і дробны вясковы гаспадар, і дворны парабак*. Першы—затым, што сёлета хлеба ўрадзіла, дзякуй Богу, многа, і ён патаньнеў,—вось, хлебаробу з кожным днём прыходзіцца больш прадаваць хлеба, каб купіць якую крамніну, бо яна даражэе шыбчэй за хлеб. Ізноў-жа парабкам пэнсію плацяць, аблічаючы паводле жыта,—дык і яны церпяць ад таго-ж, ад чаго і дробныя гаспадары.

Хаця сучасны ўрад ад першых дзён свайго істнаваньня абвясьціў, што ён бярэцца папрабіць фінансы Польшчы, хаця абяцаўся, што ўжо ў верасьні спыніцца друк марак, бо ў скарб паплывуць новыя падаткі, хаця ў Варшаву прыехаў „заморскі знахар“— ангельскі фінансіст Юнг, — аб паправе курсу маркі нешта нічога ня чутно. *За амэрыканскі доляр плоцяць ужо больш, як мілён польскіх марак.* А з кожным паніжэньнем курсу польскае маркі ўсе *цэны йдуць угору.*

Пакуль там урад „правіць“ фінансы, нашай вёсцы жывецца ўсё цяжэй і цяжэй. Аднак, калі добра падумаць, дык і *мы самі* — хоць у нейкай меры—маглі-бы паруніцца аб тым, каб рост дарагоўлі адбіваўся на нашых кішанёх і жыватох ня так ужо востра. На гэта ёсьць спосаб, які ўжо даўно ў нас вядомы, і якім, дзе толькі знойдзецца некалькі жывых людзей, мы можам карыстацца вельмі проста і лёгка. Спосаб гэты — *каапэрацыя.*

Праўда, шмат каму гэты спосаб будзе не да спадобы: проці закладзін каапэратываў па вёсках і мястэчках будуць вясьці агітацыю тыя крамнікі, якіх цяпер расплодзілася нязвычайна многа. Апрача старых, пераважна жыдоўскіх, істнаваўшых з даўных часоў, наадкрывалася многа новых—польскіх прыватных крамаў. З усіх канцоў Польшчы зьлятаюцца на „Крэсы“ жадныя да лёгкага заробку людзі, якім яшчэ даюць падмогу адумысныя арганізацыі, што хацелі-бы гэткай дарогай „узмоцніць“ польскі элемэнт на Беларускіх землях. І вось, як старыя, так і новыя крамнікі паглядаюць на каапэрацыю вельмі няпрыхільна і, пэўне-ж, будуць усімі спосабамі шкодзіць тым, хто ўздумае адкрыць хаўрусную краму: прадаючы ўсе тавары шмат таньней, каапэратывы зьяўляюцца небясьпечнымі канкурэнтамі нават і для „нацыянальнага“ польскага гандлю....

**Але на гэта няма ніякае патрэбы звара**чаць увагу. У нас—асабліва ў Віленшчыне— працуюць пэўне больш за сотню каапэратываў, якія ўсе злучаны ў Віленскі Саюз Каапэратываў, што робіць агульныя для ўсіх іх закупы ці то з фабрык, ці наагул з першае рукі. За прыкладам Віленшчыны павінны пайсьці і Наваградчына, і Піншчына, і Горадзеншчына.

Вось, пакуль там розныя „заморскія знахары“ папраўляць польскую валюту, мы самі—*сваімі рукамі*—можам хоць крыху *палепшыць нашае матарыяльнае палажэньне дарогай каапэрацыі.* А да таго трэба дадаць, што карысьць ад каапэрацыі будзе ня толькі на сягоньняшні дзень: у каапэратыве распыленыя па вёсках і хутарох нашы вяскоўцы будуць *гуртавацца*, будуць *прывучацца да грамадзкае працы*, прывыкаць рабіць нешта *сваімі сіламі*—грамадой, — і такая прывычка да *грамадзкае самадзейнасьці* дапаможа вёсцы пазбыцца шмат злыбяды ў яе жыцьці.

Хай-жа ўсё, хто здольны і дуж да такое працы, зразумеюць карысьць ад каапэрацыі *як на сягоньняшні дзень, так і назаўсёды*, няхай ладзяць па вёсках і мястэчках каапэратывы, — і вынікі іх стараньняў прынясуць вялізарную карысьць і вёсцы, і ім самым.

**П. Бахрым.**

## Злучаныя Штаты Эўропы.

Ёсьць ідэі, якія маюць пад сабой гэткі моцны грунт, што няўдачы адных пры спробе іх зьдзейсьненьня зусім не забівае веры ў гэтыя ідэі у другіх і толькі прымушае шукаць новых дарог да правядзеньня іх у жыцьцё.

Да такіх ідэяў належыць *ідэя Злучаных Штатаў Эўропы.*

Гледзячы на тое, як добра наладжана дзяржаўнае жыцьцё Паўночнае Амэрыкі, якая прадстаўляе адну *вялізарную фэдэрацыю*, адно суцэльнае гаспадарства, зложанае з аўтаномных адзінак—штатаў (затым і называецца гэтая дзяржава Паўночна-Амэрыканскімі Злучанымі Штатамі), сама сабой можа прыйсьці думка: каб усе *дзяржавы Эўропы* зрабілі гэткую самую *фэдэрацыю*, каб у Злучаных Штатах Эўропы *расчыніліся ўсе граніччныя межы*, што дзеляць народы, каб паўстаў такі вялізарны саюз народаў, у якім *кожын народ быў-бы гаспадаром на сваей зямлі*, а супольная дзяржаўная арганізацыя на вечныя часы *выключыла-бы* ўсялякую *магчымасьць вайны* паміж народамі Эўропы, *барацьбу* паміж імі, замяніўшы на *супрацоўніцтва.*

Ідэя гэтая—нязвычайна павабная, нязвычайна простая і, разам з тым, нязвычайна вялікая. І, гледзячы на Амэрыку, якая першая стварыла гэткую фэдэрацыю, гледзячы на Азію, у якой разьвіваецца (пад кіраўніцтвам Японіі) так званы „ўсе-азіяцкі“ рух, што імкнецца да аб'яднаньня азіяцкіх гаспадарстваў дзеля барацьбы з уплывамі і ўладай дзяржаваў Эўропы, — трэба спадзявацца, што — раней, ці пазьней, — само жыцьцё прымусіць „старушку“ Эўропу зрабіць поўную дзяржаўную перастройку на сваей зямлі, якая ў працягу ўсяе сваё гісторыі была арэнай няўстаннай крывавай барацьбы між народамі.

Некалі—задоўга да сусьветнае вайны—імпэратар Нямеччыны, Вільгэльм II, намаляваў абраз, у якім сымвалічна прадставіў небясьпеку для Эўропы, што ўзьнімаецца з Усходу—з Азіі. І хаця іменна палітыка гэтага імпэратара давяла да сусьветнае вайны, якая страшэнна здэмаралізавала і зруйнавала Эўропу, аслабіўшы яе і духова і матарыяльна, — аднак ужо ў пэрыяд вайны мы бачылі ў гэтай-жа *Нямеччыне* спробу падыйсьці да зьдзейсьненьня ідэі эўрапэйскае фэдэрацыі. Але Нямеччына ў першы чарод манілася стварыць *фэдэрацыйны саюз Сярэдняе Эўропы*, абнімаючы Нямеччыну, Аўстрыю (з Чэхіяй, Угоршчынай і др.), Польшчу, Літву, Беларусь, Украіну і Балтыцкія землі (Латвію, Эстонію, Фінляндыю). Далей павінны былі далучыцца Балканы. А моц і сіла Сярэдняе Эўропы (Mittel-Europa) магла-бы *прымусіць* да далучэньня да яе—з аднаго боку—Расею, з другога—Францыю, Бэльгію, Англію, Італію, з якімі Нямеччына вяла барацьбу, а такжа ўсе нэўтральныя гаспадарствы Скандынавіі і Пірэнэйскага паўвострава, Швайцарыю, Галяндыю, Данію....

Разгром Нямеччыны разьвеяў усе нямецкія пляны адносна да Mittel-Europa. Затое думку фэдэралізацыі Эўропы падняў *Вільсон*, творачы Лігу Нацыяў, і такія выдатныя прадстаўнікі сацыялізму, як Каўтскі і Рэнодэль, вітаюць гэту ідэю, хаця праектаваныя Злучаныя Штаты Эўропы павінны былі аставацца *пад кіраўніцтвам буржуазіі.* Але іменна тое, што рэалізацыяй вільсонаўскае ідэі заняліся буржуазныя ўрады, наскрозь праніктутыя—асабліва пасьля перамогі над Нямеччынай—дзікім нацыяналізмам, зрабіла з ідэі аб'яднаньня Эўропы і Лігі Нацыяў нейкую злую карыкатуру. І ўсе спадзяваньні на Лігу Нацыяў, усе надзеі на тое, што гэтай дарогай можна дайсьці да стварэньня Злучаных Штатаў Эўропы, разьвеяліся, як дым, падобна да нямецкіх лятуценьняў....

У меру таго, як усё больш і больш губляе сваё значэньне Ліга Нацыяў, мы бачым яшчэ адну спробу падыйсьці да зьдзейсьненьня ідэі Злучаных Штатаў Эўропы. Гэтым разам справай занялася не буржуазія, а *пралетарыят.*

„Пралетарыят, захапіўшы ў сваё рукі ўладу, будзе арганізовываць нацыі, як самастойнае цэлае, і фэдэрыраваць іх дзеля эканамічных і палітычных мэтаў“. Гэты лёзунг Троцкага ўжо зьдзейсьнены на Усходзе Эўропы ў пастаці Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік. Але на Захад гэты Саюз ня мае ўплыву, і шырокія вешчаваньні Троцкага на гэтым і спыніліся-бы, калі-б не здарэньні, якія разьвіваюцца на Захадзе і якія выклікае—мо' сама таго не разумеючы—Францыя.

Мы маем на думцы той развал Нямеччыны, да якога стараецца давясьці французская палітыка. Нямеччына, як вядома, прадстаўляе саюз цэлага раду нямецкіх краін, якія, дзякуючы гістарычным абставінам, разьвіваліся болей ці меней самастойна. І вось ад гэтага саюзу Францыя ўжо адрывае прырэйнскія землі, сфабрыкаваўшы там „сэпаратыстычны“ рух; далей стараецца адарваць Баварыю. А ў сувязі з гэтым газэты наказываюць, што Усходнія Прусы, і так ужо—дзякуючы Францыі—аддзеленыя ад рэшты Нямеччыны так званым „польскім калідорам“, сур'ёзна думаюць аб выхадзе з агульнанямецкага саюзу і аб аб'яднаньні з кім-колечы з усходніх суседзяў, магчыма—з Літвой. Цяпер-жа, як вядома, у Саксоніі і Тюрынгіі ўтварыліся сацыялістычна-камуністычныя ўрады, якія свае вочы выразна зварачаюць на ўсход— да Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік. І вось для ідэі пашырэньня гэтага Саюзу з усходу на захад творыцца ў цэнтры Эўропы дужа добры грунт у гэтых нямецкіх краінах. Нямецкія землі, пасьля разьбіцьця Францыяй іх саюзу, часьцю могуць стацца незалежнымі гаспадарствамі, часьцю — ўвайсьці ў склад СССР.

Ведама, і гэта йшчэ не разьвязывае пытаньня, ці аб'яднаньне Эўропы на думцы Троцкага і яго партыі запраўды зьдзейсьніцца. Цяпер у Эўропе ўсё больш і больш ярка выяўляецца барацьба двух варожых сабе ўзаемна крайніх кірункаў: вузка-нацыяналістычнага *фашызму* і інтэрнацыянальнага, фэдэралістычнага *камунізму*. Вось, ад таго, які з гэтых кірункаў пераважыць у Эўропе, які выявіць больш жыцьцёвае сілы, залежыць і пытаньне аб найнавейшай спробе зьдзейсьніць ідэю Злучаных Штатаў Эўропы.

**А. Радкевіч.**

***Пішыце да нас аб жыцьці-быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Волі Народу“ будзе і яе супрацоўнікам.***

аднагалосна заяўляюць, што пагроза вайны перастане істнаваць толькі пасьля ўхіленьня капіталізму разам з работніцкай клясай. Прадстаўнік Грузіі заявіў, што толькі дзякуючы саюзу з работнікамі грузінскае сялянства дабілася запраўднага вызваленьня. На канфэрэнцыі разглядаецца пытаньне аб утварэньні сялянскага інтэрнацыяналу.

---

У сьнежні адбудзецца другая сэсія Усерасейскага Царкоўнага Сабору.

### ЛІТВА.

Літоўскі міністар заграничных спраў пабываў у Рызе і Рэвэлі, дзе вёў перагаворы аб склiканьні ў Коўні канфэрэнцыі балтыцкіх дзяржаваў з мэтай утварэньня хаўрусу паміж Літвою, Латвіяй і Эстоніяй. Як паведамляюць літоўскія газэты, паездка дала здавальняючыя вынікі.

### АУСТРЫЯ.

У Аўстрыі адбываюцца выбары да парлямэнту.

### ФРАНЦЫЯ.

У Францыі ўсё больш пачынаюць рыхтавацца да выбарнай кампаніі. Радыкальна-сацыялістычная партыя прыняла рэзалюцыю, у якой выступае процiў нацыянальнага блёку. Партыя будзе імкнуцца да зьбліжэньня з Радавымі Рэспублікамі і падтрымоўваць нямецкую дэмакратыю.

## З Польскага Сойму.

### Прапазіцыя

паслоў Беларускага Клюбу ў справе надужыцьцяў жаўнераў 26 палку уланаў і паліцыі ў м. Гарадзеі, Нясьвіскага павету.

Ад часу расквартэраваньня ў м. Гарадзеі, Нясьвіскага пав. і ваколіцах 26-га палку уланаў мясцовае насяленьне адчувае напады, гвалты і зьдзекі з боку жаўнераў. Жаўнеры забіраюць з поля збожжа, капаюць бульбу і агародніну, нападаюць на жыхароў, часта ўжываючы аружжа, і пагражаюць абліць будынкі газай і запаліць. Даводзтва палку не зварочвае ўвагі на гэтую годную кары дзейнасьць войска і скаргі насяленьня на бясправе жаўнераў не даюць ніякіх вынікаў. Прыкладам гэтага бяспраўя і гвалту могуць быць гэткія факты:

1) 28 траўня г. г. жаўнеры 26 п. ул. у прысутнасьці плютановага Чэрмэнта зьбілі Мар'ю Вайтовічаву, якая з гэтай прычыны хварэла 2 тыдні.

2) 16 ліпня г. г. на вясельлі жаўнеры зьбілі некалькі асобаў, пры гэтым пагражалі рэвальвэрамі.

3) 18 ліпня г. г. жаўнеры зьбілі Сымона Куніча.

4) 3 жніўня г. г. жаўнеры зьбілі Яўхіма і Антона Скачкаў.

5) 4 жніўня г. г. зьбілі да паўсьмерці Адама і Стэфу Швакаў. Адам Швака да гэтага часу ня можа ўладаць рукой і нагой.

6) 18 жніўня г. г. ў Якуба Скачка жаўнеры забралі з поля 30 снапоў аўса.

7) 20 жніўня г. г. у Уладзімера Стасенюка жаўнеры забралі з поля 60 снапоў пшаніцы.

8) 28 жніўня г. г. Базыль Касмовіч быў выкліканы да абозу на адлегласьці 45 кілёмэтраў, але з прычыны далёкай падарожы і слабага каня прасіў аб звальненьні. Па прыбыцьці на пастарунак паліцыі паручнік 26 палку ўланаў Рыдэль ударыў Касмовіча разаў колькі шпіцрутаю, а сабака паручніка пакалечыў зубамі твар Касмовічу. Камэндант паліцыі заткнуў рукою рот Касмовічу, а паліцыянты ў ліку 6-х асобаў білі яго, аж пакуль у яго з твару і носа не палілася кроў. Тады абмылі яго вадою і пакінулі праз усю ноч пад арыштам, а каня жаўнеры ўзялі самі.

Шмат іншых надужыцьцяў, гвалтаў і крадзежаў было зроблена жаўнерамі 26 палку уланаў.

Прыймаючы пад увагу вышэйпамянёныя факты, а таксама і іншыя надужыцьці адміністрацыі і войска над грамадзянамі беларускай нацыянальнасьці,

Высокі Сойм захоча ўхваліць:

Выбраць Соймавую Камісію з 5 паслоў з учасьцем пасла з Беларускага Клюбу з мэтай досьледу на месцы надужыцьцяў адміністрацыі і войска над беларускім насяленьнем.

## З газэт.

### Няслушнае выхваляньне.

Як ужо ўсім добра ведама, калі тварыўся ўрад генарала Сікорскага, дык беларускія, украінскія і нямецкія паслы ў Сойме падалі свае галасы за яго, давяраючы польскай дэмакратыі, якая ўзяла на сябе адказнасьць за гэны ўрад. Аднак, ген. Сікорскі, верны насьледавальнік п. Язэпа Пілсудскага, хаця і абяцаўся з соймавае трыбуны споўніць адносна да нашага народу ўсё тое, што загадвае Канстытуцыя, ды, умацаваўшыся, ня споўніў нічога нават у наймяншай драбніцы. Яго палітыка адносна да беларусаў была такая, што нават сучасны эндэцкі міністар асьветы, п. Гломбінскі, заняўшы міністэрскае крэсла, заявіў прадстаўніку беларусаў, што пры новым урадзе беларусам *горш, чым было, ня будзе*...

Ня гледзячы на зусім ачывісты факт злоўжываньня даверыем меншасьцяў да польскае дэмакратыі, польская дэмакратычная прэса мае адвагу ня толькі „забывацца“ аб гэтым, але і *выхваляць* нацыянальную палітыку папярэдняга ўраду. Ашуканскай тактыцы „пілсудчыкаў“ „Kurjer Polski“ прыпісвае такую вагу, што быццам толькі з прычыны палітыкі п. Сікорскага адносна да нацыянальных меншасьцяў камуністычны ўрад Р.С.Ф.С.Р. быў прымушаны зьмяніць сваю нацыянальную палітыку!

Вось што піша „Kur. Pol.“ у перадавіцы пад загалоўкам: „O broń moralną“:

> Трэба памятаць, што под той час, калі палітычныя кіраўнікі „саветаў“ пачыналі сваю вялікую рэформу канстытуцыі, у Польшчы істнаваў урад п. Сікорскага. Рэчпаспалітая ўваходзіла ў новы пэрыад жыцьця, калі ад дачэснай пробнай палітыкі на ўсходніх крэсах трэ' было перайсьці да сталае праграмы. Лініі яе былі вызначаны даўно і ў гістарычнай Польшчы і цяпер, пасьля адраджэньня: свабода для нацыянальнага разьвіцьця ўкраінцаў і беларусаў у межах польскае дзяржаўнасьці, якая магла прыхіліць да Польшчы шырокія масы мясцовага насяленьня на крэсах.
>
> У часе, калі адбывалася перастройка савецкага гаспадарства, ў Польшчы адбылася кардынальная палітычная порамена: уладу ўзяў у свае рукі габінэт п. п. Вітаса і Гломбіньскага. Вялікая праграма нацыянальнае палітыкі гаспадарства была перачыркнена. Польшча выпускае з сваіх рук маральнае кіраўніцтва нацыянальнай палітыкі,—за яго прагавіта хапаецца камуністычная Расея.

Расказаўшы далей аб тэй шырокай працы, якую вядуць „саветы“ ў кірунку украінізацыі і беларусізацыі Радавае Украіны і Радавае Беларусі, манючыся стварыць на Усходзе Піэмонт для украінцаў і беларусаў проці Польшчы, „Kur. Pol.“ кажа:

> Гэтак спаўняецца шырокая праграма, галоўную сілу якое прадстаўляе факт, што Польшча перастае быць прыцягіваючым фактарам у нацыянальнай палітыцы. Наша слабасьць—гэта сіла маскоўскае ка уны.

Можам з поўным перакананьнем сказаць, што орган польскае дэмакратыі вельмі памыляецца, прыпісываючы ўраду п. Сікорскага тое, чаго той ніколі ня меў: ня меў тае нацыянальнае праграмы, аб якой кажа „Kur. Pol.“—Дык і „саветы“ не маглі сваю нацыянальную палітыку стаўляць у залежнасьць ад таго, *чаго ў Польшчы ніколі ня было*. Дый дарма газэта нападае на ўрад п. п. Вітаса і Гломбіньскага: у адносінах да беларусаў п. Сікорскі нічым ня быў лепшы за яго! Розьніца толькі ў тым, што п. Сікорскі перад усім сьветам прызнаўся, што беларусам у Польшчы дзеюцца вялікія крыўды, абяцаўся гэтыя крыўды папраўіць і... далей вёў палітыку вынішчэньня беларускага народу. А п. Вітас таксама перад усім сьветам заяўляе, што „ў Польшчы ўсім дзеецца добра“ і... таксама, як п. Сікорскі, вядзе палітыку, варожую да беларусаў.,.

## ХРОНІКА.

— „Цэнтральная Беларуская Школьная Рада гэтым абвяшчае сяброў Таварыства Беларускае Школы, што ёю склікаецца агульны сход сяброў Т-ва на 1-е лістапада (чацьвер) 1923 г. у г. Вільні, у памешканьні Школьнай Рады (Віленская № 12), а 11 гадзіне дня.

Калі на азначаную гадзіну не зьбярэцца устаноўлены лік сяброў, сход адкрыецца на 1 гадзіну пазьней і будзе лічыцца правамоцным бяз увагі на лік прыбыўшых на гэтую гадзіну сяброў (§ 34 статуту Т-ва)“.

Віцэ-Старшыня **Антон Луцкевіч**.

За Сэкрэтара **А. Грыневіч**.

**Камітэт Помачы** ў Вільні гэтым паведамляе сяброў і ўсё беларускае грамадзянства, што 1-га лістапада сёл. г. у памешканьні Школьнай Рады (Віленская 12) адбудзецца гадавы сход Т-ва Помачы. Сход назначаецца на гадз. 1 па пал., а калі ў гэтай гадзіне дзеля няяўкі сяброў сход не адбудзецца, дык тады ён адбудзецца ў г. 2 пры кожным ліку сяброў.

Парадак дня: справаздача старога ўраду, перавыбары, плян дзейнасьці на будучыню, бягучыя справы.

**Цяжкое палажэньне беларускага прытулку.** Апошнім часам для беларускіх сірот стварылася нязвычайна цяжкое палажэньне. У прытулку дзеткі проста галадаюць. Польскі ўрад ад некаторага часу не дае ані гроша. Відаць лёс нашых дзетак мала яго цікавіць.

Грамадзяне памажыце!

„Dziennik Wileński“ падае сэнсацыйную вестку аб арышце ў Маладэчне нейкага Сруля Каліша, які, быццам, зьяўляецца вінаватым у ўзрыве ў Варшаўскай цытадэлі.

„Słowa“ пярэчыць гэтым весткам.

**Новыя кнігі.** Выйшлі з друку і прадаюцца ў Беларускай Кнігарні (Завальная 7) „Навука сьпеву“ А. Грыневіча; „Вялікая Шышка“ Язэпа Нарцызава і „Алёнчына вясельле“ А. Зязюлі.

22 кастрычніка вышаў № 13 тыднёвай газэты „Krynica“.

## Весткі з вёскі.

### Арышты ў Валожынскім павеце.

У апошніх лічбах верасьня месяца зарыштаваны некалькі чалавек рабочых на тартаку Жардэлі; у лічбе іх два браты Пятровічы, якія пашыралі сярод рабочых, як нас паведамляюць, беларускую сьвядомасьць. І адміністрацыі тартаку і акалічным панком не падабаліся Пятровічы, і вось цяпер яны разам з другімі апынуліся ў павятовай Вялейскай турме.

**Шаркаўшчына**, Дзісенскага пав.

Наш арганісты атрымаў № 9 беларускае газэты „Крыніца“. Прачытаўшы, ён аддаў яе дачцэ запашніка двара Хвастова. Тая дала яе прачытаць сваім панам, якім тон газэты вельмі не ўпадабаўся, асабліва адказ пану Обсту за напад на беларускіх ксяндзоў. Вось гэты панок з газэтай у руках папёр у паліцыю і, як відаць, задаў ім такога гону, што двое паліцыянтаў папёрлі ў веску Гражы, аж за пяць вёрст, дзе ў Мальвіны Радзюк зрабілі вобыск. Шукалі газэт, але перавярнуўшы ўсе манаткі, і нічога не знайшоўшы, ня солана хлябаўшы, папляліся да дому.

**В. Калючы.**

## Усячына.

### Прынцэса—сацыялістка.

Прынцэса Warwick, якая належыць да найвышэйшай ангельскай арыстакратыі, здаўна вядома з сваіх сымпатыяў да сацыялізму. Цяпер яна аддала ў карыстаньне ангельскай партыі Працы свой маёнтак Эстон-Лодж, дзе кожны тыдзень (у суботу і нядзелю) адбываюцца работніцкія зьезды і конфэрэнцыі.

## Курс на грошы.

**Варшава, 23-га Кастрычніка.**

(Офіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры | 1.390.000 |
| Нямецкая марка | 0.000.001 |
| Фунты штэрл. | 6.850.000 |
| Франкі франц. | 81.500 |
| Франкі бэльгійск. | 69.500 |
| 10 руб. золатам | — — |
| Польскі злоты | 140.000 |



Рэдактар-Выдавец **У. Знамяроўскі**. Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.